

# НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

1'92
9 студзеня

Выдаецца са сьнежня 1988.
Кошт 60 кап.

НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

## Зянон ПАЗЬНЯК: Мы павінны ісьці ў Эўропу

У палітыцы БНФ і ў палітыцы кіраўніцтва Рэспублікі павінна быць вызначаная галоўная канцэпцыя, якая акрэсьліць нашае існаваньне ў пэрспэктыве. Гэтая канцэпцыя ёсьць незалежнасьць. Мы павінны грунтаваць нашую палітыку на прынцыпе дасягненьня незалежнасьці, умацаваньня сувэрэнітэту, стварэньня структураў незалежнае дзяржавы, разьвіцьця эканомікі Беларусі, як незалежнае дзяржавы й г.д. Адмаўленьне прынцыпу незалежнасьці прывядзе нашую Рэспубліку й наш Рух да краху. З гэтага пункту гледжаньня хацелася-б зрабіць ацэнку апошніх падзеяў і сітуацыі, якая склалася на прасторы былога СССР.

На пачатку сьнежня становішча на тэрыторыі былога Саюзу пры адсутнасьці пазітыўнага вырашэньня пагражала канфліктам паміж паасобнымі рэспублікамі й палітычнымі сіламі, што пры наяўнасьці зваротаў да войска магло выліцца ў збройнае супрацьстаяньне.

Склалася наступнае геапалітычнае разьмеркаваньне сілаў. Адзін з блёкаў складаюць пяць рэспублік Сярэдняе Азіі, дзе захавалі ўладу камуністычныя рэжымы. З гэтае групы я не выключаю й Кыргызстан, хаця з суб'ектыўнага пункту погляду там сітуацыя трошкі іншая (маецца на ўвазе асоба прэзідэнта Акаева). Палітыку гэтых рэспублік дыктуе іхняя гісторыя, мэнтальнасьць і эканамічнае становішча. Эканоміка гэтых рэспублік пабудаваная пераважна на экспарце сыравіны. Напрыклад, Узьбекістан спэцыялізуецца на вывазе бавоўны, а ягоная эканоміка носіць тыпова каляніяльны характар. Патрэбы ўнутранага рынку гэтая рэспубліка са свае вытворчасьці забясьпечвае толькі на 56%. Тое самае тычыцца й усіх астатніх сярэднеазіяцкіх рэспублік, у тым ліку Казахстану, які па аб'ёмах сыравінных рэсурсаў зьяўляецца адной з самых багатых краінаў сьвету.

У геапалітычным пляне гэтыя рэспублікі аб'ектыўна зацікаўленыя ў захаваньні Саюзу. Камуністычныя рэжымы адчуваюць, што ў варунках вышэй згаданай эканамічнай сітуацыі сваімі сіламі яны зь вялікімі цяжкасьцямі здолеюць выйсьці на новы эканамічны этап. У палітычным аспэкце камуністычныя рэжымы Сярэдняй Азіі занепакоеныя ўздымам ісламу, падтрымкай, якую ісламскія рухі атрымліваюць з-за мяжы, і тым, што рана ці позна гэтыя рухі заявяць пра сябе на ўвесь голас, што будзе азначаць канец камунізму. Каб захаваць уладу й стрымаць іслам, камуністы пайшлі зь ім на пагадненьне, добра ведаючы, што гэтае пагадненьне часовае. Дзеля падтрыманьня часовага парытэту зь ісламам сярэднеазіяцкім уладам патрэбнае чужое немусульманскае, найлепш славянскае войска, якое падпарадкоўвалася-б адзінаму цэнтральнаму камандаваньню.

Асаблівую небясьпеку ў справе рэанімацыі ўнітарнай дзяржавы на тэрыторыі былога СССР цяпер уяўляе войска, якое з часткі дзяржаўнай структуры пасьля краху кампартыі ператвараецца ў асобную ўзброеную да зубоў сацыяльна-палітычную сілу. Захаваньне адзінага войска з усімі ягонымі структурамі – гарантыя аднаўленьня таталітарнага Саюзу.

Другая геапалітычная сіла – Расея, якая ў эканамічным сэнсе зьяўляецца імпэрыяй, будуе сваю эканоміку пераважна на вывазе сыравіны, у першую чаргу нафты. Расея зьяўляецца імпэрыяй і па сваёй структуры, бо гістарычна сфармавалася як імпэрыя – шляхам прыў[...]шчваньня й захопу тэрыторыяў. Цяпер Расея ўяўляе велізарную прастору, на якой жывуць розныя нацыі рознага культурнага ўзроўню – ад першабытнага да сучаснага; існуюць розныя эканамічныя зоны – ад тыпова сыравінных да разьвітых прамысловых цэнтраў. Дзяржава з такой велізарнай тэрыторыяй, з такою розьніцай культурнае й эканамічнае шкалы можа нармальна існаваць толькі як таталітарная імпэрыя з моцнаю цэнтральнаю ўладай. Таму палітыка Расеі аб'ектыўна выражае імпэрскія інтарэсы. Дзяржаўная пазіцыя Расеі



акрэсьліваецца зацікаўленьнем у захаваньні на пэўным этапе саюзных структураў, каб потым, шляхам адпаведных юрыдычных і палітычных захадаў стаць фактычным пераемнікам Савецкага Саюзу, але ўжо ў форме клясічнай імпэрыі.

Трэйцяя сіла – Украіна, краіны Балтыі, Малдова й Беларусь, якія вядуць палітыку стварэньня незалежных дзяржаўных структураў, дэмакратычнага ладу, рынкавае эканомікі, інтэграцыі ў Эўропу, адыходу ад Расейскае імпэрыі. Таму паміж гэтымі дзяржавамі й Расеяй аб'ектыўна ўзьнікае супярэчнасьць. Кульмінацыю гэтае супярэчнасьці мы адчулі ў пачатку сьнежня ў часе рэфэрэндуму на Украіне, які парушыў інтарэсы як Цэнтру, гэтак і Ельцына. Разьвіцьцё сітуацыі магло-б пайсьці або па шляху вайсковых прэтэнзіяў, або ў кірунку палітычнага ўрэгуляваньня. І мы сталі сьведкамі заключэньня белавежскіх пагадненьняў паміж Расеяй і Украінай з удзелам Беларусі.

Пагадненьне пра СНД мае часовы характар, бо было падпісанае ў выніку часовага супадзеньня інтарэсаў: імпэрская Расея й незалежная Украіна аб'ядналі намаганьні ў справе зьнішчэньня старога гарбачоўскага цэнтру, які перашкаджаў усім. Аб'ектыўна ў гэтым зацікаўленая й Беларусь. Пасьля таго, як гэтая мэта была дасягнутая, суб'екты СНД пачалі цягнуць коўдру кожны на сябе.

Гэта прадэманстравала менская сустрэча лідэраў СНД, якая адбылася напярэдадні Новага году. Пасьля адыходу Міхаіла Гарбачова ў рамках СНД дамовіцца стала амаль немагчыма. З аднаго боку Расея пры падтрымцы сярэднеазіяцкіх рэспублікаў жадае паступова трансфармаваць п[...]адненьне, што ў выніку прывядзе да стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы. З другога боку абсалютна абыякавая да праблемаў незалежнасьці й дзяржаўнага будаўніцтва ў суседніх рэспубліках Украіна абараняе ўласны сувэрэнітэт, што зьяўляецца ускосным станоўчым фактарам для аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці, тым больш, што пакуль Леанід Краўчук перамагае.

Што тычыцца Беларусі, дык яна мае лепшыя ўмовы дзеля інтэграцыі ў эўрапейскую сістэму. Нашая дзяржава арыентаваная на вытворчасьць і вываз тавараў і прадуктаў, а не сыравіны. Мы цалкам забясьпечваем свае ўнутраныя патрэбы й шмат што можам экспартаваць (рэспубліка-донар). У нас дастаткова збалянсаваная эканоміка, функцыянуе паўнавартасны народнагаспадарчы комплекс на дастаткова высокім арганізацыйным і тэхнічным узроўні, існуе высокі ўзровень кваліфікацыі рабочай клясы, вялікая канцэнтрацыя інтэлекту: фундамэнтальнай і прыкладной навукі – асноўнай вытворчай сілы на сучасным этапе.

Беларусь мае вялікія запасы сыравіны, у тым ліку й стратэгічнай – гаручых сланцаў, бурага вугалю, жалезнай руды, калійных соляў, далямітаў і нафты. Першапачаткова беларуская нафта здабывалася варварскім спосабам, бо ў СССР нас ніколі не ўспрымалі як нацыю, як народ. Нафты выкачвалі ў 10 разоў больш, чым трэба па тэхналёгіі. Калі апомніліся й зразумелі, што нашая нафта вышэйшае якасьці, многія сьвідравіны замарозілі. Унікальнасьць беларускае нафты палягае на яе «лёгкасьці», здольнасьці адразу ісьці ў нафтапровад. Таму ёю разбаўляюць «тяжкую» расейскую нафту. Калі мы не дамо свае нафты, усе нафтапроводы спыняцца. Ёсьць у нас і радовішчы дыямэнтаў і многае іншае.

Дзеля таго, каб скарыстацца з гэтага багацьця, нам не хапае дзяржаўнага мысьленьня, бо ў часе бальшавіцкага панаваньня была зьнішчаная культура й нацыянальная самасьвядомасьць. У кіраўніцтве стаялі функцыянэры, рэнэгаты, здраднікі, якія ненавідзелі свой народ, сваю зямлю. На гэтым будавалася камуністычная ідэялёгія ў Беларусі.

Цяпер, калі перад намі адкрыліся пэрспэктывы, яны не рэалізуюца, бо ўлада засталася ў рукох ранейшай камуністычнай намэнклятуры. Адбываецца далейшае рабаваньне народу, які застаецца голым. І вінаватая ў гэтым не сістэма эканомікі, а бяздарны ўрад і Вярхоўны Савет. Таму БНФ вырашыў праводзіць рэфэрэндум з патрабаваньнем іх адстаўкі.

Найперш нам трэба мець гарантыі сувэрэнітэту й незалежнасьці: сваё войска, валюту, мытную службу, мяжу, міжнароднае прызнаньне на ўзроўні пасольстваў. Неабходна ўпарадкаваць падаткавую сістэму, каб яна зацікавіла вытворцаў, прыняць антыманапольнае заканадаўства. І толькі потым праводзіць прыватызацыю. І галоўнае – праводзіць дзяржаўную культурную палітыку... Аснова эканомікі – культура. Паняцьце культуры ўключае ў сябе ўсё – і тэхналёгію й мастацтва й духоўнасьць. А пачынаць трэба з адукацыі, зь дзяржаўнай палітыкі нацыянальнай школы. Аднак наш урад праводзіць антыкультурную, антынародную палітыку. У гэтым усё зло. Таму нам неабходны новы ўрад народнага даверу. Калі мы здолеем дамагчыся новага ўраду, дык праз 5–8 год ня толькі станем на ногі, але дасягнем узроўню такіх краінаў як Данія, Фінляндыя й г.д. Гэта не пустыя словы, я маю адпаведныя разьлікі. На жаль, пераменам да лепшага перашкаджае тупасьць нашага дзяржаўнага кіраўніцтва.

Разумеючы гэта, мы павінны ацэньваць нашае стаўленьне да СНД. На першых этапах яно было вызначанае слушна, трэба было ратыфікаваць гэтае пагадненьне, бо гэта была адзіная магчымасьць дэнансаваць саюзны дагавор 1922 году, адклікаць нашых дэпутатаў зь Вярхоўнага Савету СССР, фактычна ліквідаваць СССР і многія ягоныя органы, расчысьціць магчымыя шляхі да сувэрэнітэту, а менавіта ў пытаньнях, зьвязаных з рэспубліканскай валютаю, эканомікай і стварэньнем уласнага войска.

Аднак мы павінны памятаць, што такое Расея, што ёсьць яе гісторыя, яе дыпляматыя, яе мэнтальнасьць, яе нежаданьне выконваць любыя пагадненьні. У дачыненьні да Расеі мы павінны праводзіць узаемаўзгодненую палітыку, па-добрасуседзку жыць зь ёю, гандляваць, наладжваць іншыя сувязі, але ніколі, ні пры якіх абставінах мы не павінны ўступаць з Расеяй ні ў якія палітычныя пагадненьні, ні ў якія палітычныя саюзы. Такое «аб'яднаньне» ўжо было ў канцы 18 стагодзьдзя й у 1922 годзе.

Аб'ектыўна, у інтарэсах нашага народу, у інтарэсах нашае дзяржавы мы павінны ісьці толькі ў Эўропу, мы павінны праводзіць толькі незалежную дзяржаўную палітыку. Але на працягу гэтага году нашае кіраўніцтва не зрабіла нічога, каб умацаваць свой сувэрэнітэт, аслабіць залежнасьць ад расейскай сыравіны.

Калі разглядаць нашую палітыку на пэрспэктыву, аналягічныя адносіны, хоць з пэўнай карэктыроўкаю, у нас павінны быць у стаўленьні да Польшчы. Пры найлепшых дачыненьнях зь ёю мы ніколі не павінны паўтарыць памылку, якая была зробленая ў 1569 годзе. Беларуская гісторыя – гэта найлепшая школа нашай геапалітыкі.

*Паводле выступу на сьнежаньскім Сойме БНФ, інтэрвію «Навінам Адраджэньня» і газэце «Свободный Сахалин». Запісаў Валеры Сядоў. Фота Уладзіміра Сапагова.*

Стар. 3



**Гісторыя беларускіх вайсковых адзінак 20 стагодзьдзя мае шмат цікавых старонак. Але ці мы ведаем пра гэта?**

Стар. 2

**У канцы 1991 узровень інфляцыі на Беларусі складаў 20% штодня. Грошы на ашчадных укладах абясцэніліся з 10.000 да 800 руб. Але замест сумленнай канфіскацыйнай рэфромы быў зроблены крок да гіпэрінфляцыі. Гэты крок атрымаў назву «лібэралізацыя цэнаў».**

Стар. 4



Сярод ахвяраў бальшавізму, забітых ў Левашове, былі нашыя землякі – славуты навуковец і малады талентавіты студэнт.

НА СОЙМЕ БНФ

# БНФ ПРЫНЯЎ РАШЭНЬНЕ РЫХТАВАЦЦА ДА РЭФЭРЭНДУМУ

*У цэнтры нечарговага паседжаньня Сойму БНФ 29 сьнежня былі пытаньні пра палітычнае становішча й пра рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь.*

У спавешчаньні да першага пытаньня Старшыня Фронту Зянон Пазьняк зазначыў, што пасьля Алма-Ацінскай сустрэчы расклад сілаў зьмяніўся ў некарысны для Беларусі бок. Інтарэсы Расеі ды Ўкраіны застаюцца проціглеглымі, але ранейшае патрэбы ў Беларусі з ростам колькасьці ўдзельнікаў садружнасьці ў іх няма. Кіраўніцтва-ж Рэспублікі мае ілюзіі, быццам сапраўды ўтварылася нейкая садружнасьць. Унутраная сітуацыя на Беларусі пагаршаецца. Не ствараецца ўласнае войска, мытная служба, не рыхтуюцца ўводзіны свае валюты. У такім становішчы Апазіцыя БНФ абвясьціла пра стварэньне ініцыятыўнае групы дзеля правядзеньня рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету й аб новых выбарах, – паведаміў З.Пазьняк.

Ю.Хадыка прааналізаваў магчымае разьвіцьцё падзеяў пасьля падвышэньня цэнаў, назваў адрозьненьні цяперашняга стану ад красавіцкага: 1) улады лепш падрыхтаваныя да падвышэньня цэнаў, уведзеныя купоны, на буйных заводах паабяцанае значнае падвышэньне заробкаў; 2) існуюць страйкамы; 3) Няма відавочнага ворага ў абліччы КПБ, хоць дэзінфармацыя па-ранейшаму праводзіцца. За лібэралізацыю цэнаў выдаецца рэалізацыя праграмы Рыжкова: няма прыватызацыі й антыманапольнага заканадаўства.

На думку Ю.Хадыкі, у студзені сацыяльнага выбуху чакаць цяжка, бо абурэньне будзе нарастаць паступова. У лютым, магчыма, «здадуць» В.Кебіча.

Ю.Хадыка падкрэсьліў, што неабходна ўзмацніць сувязі са страйкамамі й нарэшце падрыхтваць эканамічную праграму: макрамадэль эканомікі, шляхі прыватызацыі й фінансавай рэформы. Апазіцыі БНФ неабходна спыніць супрацоўніцтва з ВС і дыстанцыявацца ад яго.

Уладзімір Анцулевіч паінфармаваў пра асноўныя палажэньні Закону аб рэфэрэндуме. В.Івашкевіч, В.Вячорка, С.Міхноў, Г.Банкевіч і інш. выступілі з канкрэтнымі прапановамі па падрыхтоўцы да рэфэрэндуму, выказаліся за адзінства дзеяньняў з дэмакратычнымі партыямі, ў гэтай справе.

Анатоль Гурыновіч выказаў сумневы ў мэтазгоднасьці падрыхтоўкі рэфэрэндуму, бо ВС у кожным выпадку не дазволіць ягонае правядзеньне. З.Пазьняк заявіў, што ў такім разе БНФ і Апазіцыя атрымаюць маральнае й палітычнае права фармаваць паралельныя органы ўлады.

Сойм даручыў Управе сфармаваць ініцыятыўную групу й сфармуляваць пытаньне для рэфэрэндуму. Каардынатарам групы быў прызначаны Ул.Анцулевіч.

Сойм абмеркаваў і прыняў заяву пра нацыянальную гвардыю.

**Падрыхтавана Сакратарыятам БНФ «Адраджэньне».**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ: НЕАБХОДНАЯ КОЛЬКАСЬЦЬ ПОДПІСАЎ БУДЗЕ САБРАНАЯ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ ЗА 2 МЕСЯЦЫ

*«У правядзеньні рэфэрэндуму БНФ разьлічвае на садзеяньне дэмакратычных партыяў, рухаў і падтрымку большасьці насельніцтва,» – сказаў карэспандэнту «Навінаў Адраджэньня» Ўладзіміру Панаду каардынатар ініцыятыўнае групы па правядзеньні рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету Ўладзімір Анцулевіч.*

**Ул.Панада: Ідэя перавыбараў ВС выказвалася неаднойчы. Ці Вы лічыце, што гэта можна рабіць толькі праз рэфэрэндум?**

**Ул.Анцулевіч:** На наш погляд, цяперашні ВС ня ў стане вырашаць праблемы, якія паўстаюць перад Рэспублікай. Папярэдні Сойм БНФ прыняў чарговую заяву з патрабаваньнямі да ўрада зрабіць захады да замацаваньня сувэрэнітэту. Яе праігнаравалі. Таму 29 сьнежня было вырашана, што адзіная законная мера, якая дазваляе зьмяніць склад ВС – рэфэрэндум.

Закон прадугледжвае тры варыянты арганізацыі рэфэрэндуму: зь ініцыятывы Старшыні ВС, трацінa народных дэпутатаў Беларусі або групы грамадзянаў лікам 350.000 асобаў. Старшыня падобнае ініцыятывы ня выкажа, знайсьці 115 дэпутатаў, гатовых скласьці свае паўнамоцтвы, таксама нерэальна. Таму прынятае намі рашэньне адзіна магчымае.

Акрамя таго, шлях стыхійнай зьмены ўлады ў выніку падзеяў, аналягічных красавіцкім, вельмі небясьпечны. На мой погляд, кампанія па падрыхтоўцы рэфэрэндуму дапаможа да пэўнай ступені кантраляваць сітуацыю.

**Ул.П.: Ці маглі-б Вы ўдакладніць канцэптуальныя дэталі прапанаванага БНФ выбарчага заканадаўства?**

**Ул.А.:** Распрацаваны Апазіцыяй праект рэалізуе зьмешаную сістэму: пакідае выбары па значна павялічаных акругах (да 100.000. чал., каб зьменшыць ціск на выбаршчыкаў мясцовай улады), ад якіх будзе выбірацца 80 дэпутатаў, і прадугледжвае выбары па партыйных сьпісах, якія дадуць яшчэ 80 дэпутацкіх мейсцаў. Існаваньне партыйных сьпісаў дазволіць кожнаму грамадзяніну Беларусі прагаласаваць за любую партыю ці грамадзка-палітычнае аб'яднаньне, якія легальна дзейнічаюць на Беларусі.

**Ул.П.: Колькасьць людзей, якія падтрымліваюць БНФ, знаходзіцца ў межах некалькіх дзесяткаў тысячаў. Гэтая лічба складае толькі нязначную частку галасоў, неабходных для правядзеньня рэфэрэндуму.**

**Ул.А.:** Праблемы гэта ня створыць. Мы мяркуем, што ў зборы подпісаў будуць удзельнічаць розныя партыі й палітычныя арганізацыі Рэспублікі. Да таго-ж названая лічба датычыць толькі палітычна актыўнае часткі насельніцтва. А дзейнасьцю ці, дакладней, бязьдзейнасьцю Вярхоўнага Савета незадаволеная большасьць насельніцтва. Таму можна чакаць, што неабходная колькасьць подпісаў будзе сабраная нават хутчэй, чым скончыцца адведзены на гэта 2-месячны тэрмін.

**Уладзімір Панада.**

# КРОНІКА

## БОЛЬШАСЬЦЬ ПАРТЫЯЎ ПАДТРЫМЛІВАЕ ІДЭЮ РЭФЭРЭНДУМУ

Менск. 4 студзеня ў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце адбылася кансультатыўная сустрэча прадстаўнікоў палітычных партыяў Беларусі, у якой узялі ўдзел АДПБ, ХДЗБ, ССБ, БСДГ, НДПБ а таксама прадстаўнікі рабочага руху. Было разгледжанае пытаньне пра ўдзел палітычных партыяў і рухаў Беларусі ў падрыхтоўцы да рэфэрэндуму. Прынцыповую падтрымку ідэі правядзеньня рэфэрэндуму выказалі ўсе партыі за выключэньнем БСДГ. Прадстаўнікі Грамады занялі асобую пазіцыю, падкрэсьліўшы, што БСДГ знаходзіцца ў апазіцыі да ўраду, але не зьяўляецца часткаю Апазіцыі БНФ. Рашэньне пра падтрымку рэфэрэндуму й удзел у ім кіраўніцтвам партыі будзе прынятае асобна.

На 11 студзеня прызначаная новая міжпартыйная нарада для прыняцьця канкрэтнай фармулёўкі пытаньня рэфэрэндуму й далейшай дыскусіі пра ўдзел партыяў у падрыхтоўчай працы.

## СЬПІКЕР БУНДЭСТАГУ ЗАКЛІКАЕ ДА АБ'ЯДНАНЬНЯ ХРЫСЬЦІЯНСКАГА СЬВЕТУ

У Менску зь неафіцыйным візітам знаходзіцца сп. Бэрнд Вільц – сьпікер фракцыі ХДС–ХСС у Бундэстагу Германіі па праблемах абароны й бясьпекі. Мэта візіту – бліжэй пазнаёміцца зь дзейнасьцю дабрачыннага Фонду «Дзецям Чарнобыля». Б.Вільц прывёз у Менск 5 тон мэдычна-санітарнае маёмасьці, якая раней належала войску ГДР. Груз прызначаны для абслугоўваньня дзяцей, пацярпелых ад Чарнобыля. Гэта стане пачаткам паставак абсталяваньня для новага дыягнастычнага цэнтру. Мэтаю візіту было таксама жаданьне бліжэй пазнаёміцца з прадстаўнікамі палітычных і іншых арганізацыяў Беларусі. Ужо адбылася сустрэча з прадстаўнікамі ХДЗБ. Увечары 6 студзеня Б.Вільц наведаў праваслаўны сабор, дзе яго публічна вітаў мітрапаліт Філярэт. Упершыню ў гісторыі расейскае праваслаўнае царквы права выступіць са словам у адказ было дадзена палітычнаму дзеячу зь Нямеччыны непасрэдна ў храме. Ён зьвярнуўся да вернікаў з заклікам да міру, супрацоўніцтва й аб'яднаньня ўсяго хрысьціянскага сьвету.

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

Ворша. У горадзе адноўлены выпуск газэты «Куцейна» (гарадзкая Рада БНФ). Выйшлі таксама два нумары «Рабочае волі» (Кафэдэрацыя працы Беларусі). Вядома, што ў дзейнасьці Канфэдэрацыі значная роля належыць М.Разумаву – аднаму з арганізатараў блякады аршанскага чыгуначнага вузла ў красавіку мінулага году.

## ВІНШУЕМ!

У канцы 1991 міністар юстыцыі Беларусі Л.Дашук выдаў рэгістрацыйныя пасьведчаньні прадстаўнікам утворанай яшчэ летась Хрысьціянска-Дэмакратычнай Злучнасьці Беларусі (16 сьнежня, пасьведчаньне №206) і ўтворанага сёлета ў жніўні Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў (20 сьнежня, пасьведчаньне №207).

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СХІЛЬНАСЬЦЬ ДА ПАРТЫЗАНСТВА

Горадня (паводле С.Лемке). На беларуска-летувіскай мяжы з боку Летувіскае Рэспублікі няспынна ідзе будоўля мытных пунктаў – надзейных, разьлічаных на доўгія гады, з цэглы й бэтону, нягледзячы на дэфіцыт будаўнічых матэрыялаў. Зь беларускага боку – зацішша. Сядзяць міліцыянты ў звычайных вагончыках, нагадваючы зьнешнім выглядам партызанаў часоў апошняе вайны. Каля іх знайшлі прытулак і былыя байцы ОМОН зь Вільні, якіх узялі на службу па абароне беларускае мяжы. Некаторыя зь іх ўжо атрымалі жытло ў Беларусі, але большасьць езьдзіць на службу з тэрыторыі суседняе дзяржавы.

**Падборку падрыхтвалі Ю.Копцік, І.Лазоўская, Ул.Панада, В.Сядоў.**

АКТУАЛІІ

# Уладзімір ЗАБЛОЦКІ: ГЭТЫ ЦЯГНІК ЕДЗЕ Ў ЭКАНАМІЧНЫ КАЛАПС

*«Лібэралізацыя цэнаў, якая на справе зьяўляецца звычайным іх падвышэньнем – гэта чарговы крок ў бок гіпэрінфляцыі. Пры адсутнасьці рынкавых стымулаў да росту прадукцыйнасьці працы й аб'ёмаў вытворчасьці мы вельмі хутка патрапім у эканамічны калапс,» – лічыць Уладзімір Заблоцкі, намесьнік старшыні камісіі па навуцы й тэхніцы ВС Беларусі.*

2 студзеня адбылася не лібэралізацыя, а звычайнае падвышэньне цэнаў, якое яшчэ больш уцягвае нас у гіпэрінфляцыйны працэс. Больш сумленна было-б не рабіць гэтага, а правесьці валютную рэформу. Няхай канфіскацыйную, але яна дала-б гарантыі большасьці правесьці абмен адзін да аднаго. А тым, у каго маюцца звышпрыбыткі, абмен адбываўся-б у пэўнай прапорцыі й не адразу, а з пэўным зрухам у часе.

Мы-ж пайшлі па шляху гіпэрінфляцыі, якая ў канцы 1991 году дасягнула 20% у дзень, грошы на ўкладах усё адно абясцэніліся. Напрыклад, у мяне на ўкладзе ў ашчадным банку 10.000 руб., рэальна на 1 студзеня 1992 гэта складае прыблізна 800 руб. Няхай-бы лепш мне абмянялі гэтыя грошы 10:1, але я дакладна-б ведаў, што гэта цьвердыя грошы.

Цяпер атрымліваецца, што гіпэрінфляцыя зьядае ня толькі назапашваньні грамадзянаў, але й абаротныя сродкі прадпрыемстваў. У выніку яны ня ў стане нармальна працаваць. Гэта не «лібэралізацыя», калі няма свабоды эканамічнай дзейнасьці, няма свабоды спажываньня ў тым сэнсе, што калі-б я, напрыклад, захацеў распачаць сваю справу, дык ня змог-бы атрымаць сыравіну й усё неабходнае на роўных умовах зь іншымі спажыўцамі. Чаму? Ды таму, што захаваліся ўсе разьмеркавальныя структуры, дзяржаўная манаполія, што стварае прыярытэт выбраным, асабліва хабарнікам. Усё гэта пазбаўляе грамадзянаў магчымасьці адчыняць і весьці сваю справу, бо няма асноўных умоваў, пры якіх функцыянуе нармальны рынак: няма рынку сродкаў вытворчасьці, зямлі, жыльля й г.д. Затое ёсьць адзінае – падвышэньне цэнаў ва ўмовах манапольнае вытворчасьці.

Атрымліваецца, што сёньня больш выгодна зьменшыць вытворчасьць, але ўзьняць цану. І гэта дае гарантаваную норму прыбытку пры мінімальных выдатках, бо адсутнічае канкурэнцыя. Самае цяжкое, што нас чакае – гэта падзеньне ўзроўню вытворчасьці пры падобным «разуменьні» й «арганізацыі» рынку.

Другая праблема – ня створаны дзяржавай рэзэрв прадуктаў і тавараў для таго, каб пры лібэралізацыі цэнаў забясьпечыць запаўненьне крамаў. Усё, што сёньня адбываецца, робіцца за кошт зьніжэньня ўзроўню жыцьця людзей. Пры такім падыходзе найбольш пацерпяць незаможныя людзі.

Тавары ў крамах ня зьявяцца, пакуль няма стымулу да іх вытворчасьці. Гэта аксіёма. Апазіцыя, напрыклад, прапаноўвала ўвесьці натуральны прадуктовы падатак у якасьці платы за зямлю ў памеры 25% ад выробленага. 75% заставалася-б вытворцам для свабоднага гандлю. Урад адхіліў гэтую прапанову.

Страчаны час і для ўвядзеньня беларускага талера. Яшчэ мінулым летам прэм'ер-міністр В.Кебіч гучна заяўляў пра тое, што з 1 студзеня 1992 Беларусь будзе ў стане перайсьці на ўласную валюту. Але гэтыя заявы на справе апынуліся звычайным ашуканствам дэпутатаў і ўсяго народу. Сёньня мы ня можам надрукаваць нават дастатковае колькасьці шматразовых купонаў, якія могуць быць падробленыя на любым японскім ксэраксе. А калі ўлічыць, што пераход на ўласную грашовую сістэму – гэта ня проста друкаваньне грашовых знакаў, а вялізны комплекс эканамічных і дзяржаўных мерапрыемстваў, дык можна сказаць, што да пераходу на ўласную валюту мы абсалютна не падрыхтаваныя. Мы як заўсёды спазьніліся й не пасьпяваем за іншымі рэспублікамі.

Мяркую, што калі мы й надалей будзем ехаць у цягніку, які кіруецца ў бок гіпэрінфляцыі пры адсутнасьці рынкавых стымулаў да росту прадукцыйнасьці працы й аб'ёмаў вытворчасьці, дык вельмі хутка патрапім ў эканамічны калапс.

**Уладзімір Заблоцкі.**

**СЬВЕТЛАЯ ‡ ПАМЯЦЬ**

**Управа Сойму БНФ і рэдакцыя «Навінаў Адраджэньня» шчыра спачуваюць сп. Уладзіміру Кармілкіну ў ягоным горы – сьмерці БАЦЬКІ.**

АБАРОНА

*У вайсковым пытаньні Беларусь можа пайсьці па шляху Ўкраіны. Гэта высьветлілася ў часе гаворкі нашага карэспандэнта Валерыя Сядова зь міністрам па справах абароны Рэспублікі Беларусі Пятром Чавусам. Дарэчы, яны абодва былыя «кадэты» – курсанты Менскай суворaўскай вучэльні, а гэта нашмат больш, чым простыя аднаклясьнікі. Зважаючы на гэтую сантымэнтальную акалічнасьць, генэрал-лейтэнант П.Чавус заявіў, што дае для «Навінаў Адраджэньня» самую апошнюю інфармацыю.*

# Пётр ЧАВУС: МЫ НІ З КІМ НЯ БУДЗЕМ ДЗЯЛІЦЬ ВАЙСКОВУЮ ЎЛАДУ НА СВАЁЙ ТЭРЫТОРЫІ

**Валеры Сядоў: Якія мэты й вынікі візіту маршала Шапашнікава ў Рэспубліку Беларусь?**

**Пётр Чавус:** 30 сьнежня на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў СНД было вырашана, што маршал Шапашнікаў як галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі абавязаны на працягу 2 месяцаў заключыць 2-баковыя пагадненьні з усімі незалежнымі рэспублікамі. Ён выказаў пажаданьне пачаць гэты працэс зь Беларусі. 2 студзеня ён прыбыў да нас не з канкрэтнымі прапановамі, а з мэтаю вывучэньня сітуацыі. У часе сустрэчы з С.Шушкевічам, мною й камандаваньнем Беларускай вайсковай акругі мы паразумеліся ў канцэпцыі стратэгічных ядзерных сілаў. «Кнопка» пераходзіць у рукі Б.Ельцына, які можа выкарыстаць яе толькі па ўзгадненьні з кіраўнікамі тых дзяржаваў, на тэрыторыі якіх гэтая зброя знаходзіцца. Разыходжаньняў у вырашэньні гэтае праблемы ў нас няма. Праўда, мы пакуль абдумваем, якія сілы й сродкі ўвойдуць у склад стратэгічных ядзерных сілаў. Маршал Шапашнікаў выказаў жаданьне мець найбольш такіх сродкаў і сілаў. Мы-ж лічым, што ў іх павінныя быць уключаныя толькі патрэбныя й дастатковыя. І ня больш.

**В.С.: А які лёс тактычнае ядзернае зброі?**

**П.Ч.:** Прынятае рашэньне цалкам вывесьці яе на тэрыторыю Расеі, дзе будуць вызначаныя спэцыяльныя мейсцы для яе зьнішчэньня на спэцыяльным, закупленым за мяжою абсталяваньні. Нам дастаткова Чарнобыля, таму займацца гэтым мы ня будзем.

**В.С.: Як вырашалася пытаньне звычайных узбраеньняў?**

**П.Ч.:** У маршала Шапашнікава было жаданьне працягнуць цяперашняе становішча, каб Міністэрства па справах абароны Рэспублікі Беларусі займалася сваімі прыватнымі пытаньнямі, а Беларуская вайсковая акруга, застаючыся ў падпарадкаваньні Масквы, вырашала свае пытаньні самастойна. Яму было афіцыйна заяўлена, што Беларусь як незалежная дзяржава мае права ствараць уласныя ўзброеныя сілы, і мы маем намер гэтым займацца. Мы ня будзем дзяліць вайсковую ўладу на тэрыторыі свае Рэспублікі ні з кім. Пакуль гэтая праблема застаецца адкрытай, але, мяркую, яна вырашыцца на бліжэйшай сэсіі ВС у інтарэсах нашага народу й дзяржавы.

**В.С.: Што Вы параіце тым вайскоўцам-беларусам, якія захочуць працягваць службу ў сваім беларускім войску? Маюцца на ўвазе тыя, хто служыць сёньня, напрыклад, на Далёкім Усходзе або Сахаліне.**

**П.Ч.:** Намі аддадзена ўказаньне кіраўніцтву акругі, каб прызыўнікі, афіцэры й генэралы, якія былі прызваныя з тэрыторыі Беларусі, маглі ў любы час да нас вярнуцца. Яны павінны ведаць, што тут іх Бацькаўшчына. Найперш мы павінны забраць нашых людзей з «гарачых кропак», дзе жыцьцё нашых людзей знаходзіцца ў небясьпецы. Усе, хто хоча вярнуцца, павінны стаць на ўлік пакуль ва ўпраўленьні кадраў БВА, а ў хуткім часе ў нашым Міністэрстве. Па меры вызваленьня пасадаў мы задаволім просьбы ўсіх ахвотных.

**В.С.: Якім чынам будзе камплектавацца штат узначаленага Вамі Міністэрства?**

**П.Ч.:** Першапачаткова я меркаваў стварыць Міністэрства над усімі вайсковымі структурамі, якія існуюць на нашай тэрыторыі, але, ацаніўшы сітуацыю, вырашыў, што гэта немэтазгодна й невыгодна. Таму вырашана фармаваць наша Міністэрства на аснове ўпраўленьня БВА

**Валеры Сядоў.**

ПУБЛІКАЦЫІ

# АГЕНТ ВАТЫКАНУ

*Сярод ахвяраў Левашоўскае пусткі быў славуты сын Беларусі, знакаміты навуковец Уладзімір Беняшэвіч – доктар права, член-карэспандэнт Акадэміяў Навук Бэрліна, Мюнхэна, Страсбурга, ганаровы член Афінскага таварыства бізантыязнаўства. Паводле даведкі КДБ, Ул.Беняшэвіч быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысьць Польшчы й расстраляны ў Левашове. Пры першым арышце за яго заступіўся Альбэрт Эйнштэйн, але гэта толькі адтэрмінавала расправу. Прапануем Вашай ўвазе раней не публікаваныя архіўныя матар'ялы па справе Ул.Беняшэвіча.*



На здымку: Ул.Беняшэвіч.

## ДАВЕДКА З КДБ

У матар'ялах Упраўленьня КДБ СССР па Ленінградзкай вобласьці праходзіць Беняшэвіч Уладзімір Мікалаевіч, нарадзіўся 9 жніўня 1874 у г. Друя Дзісенскага ўезду Віленскае губэрні, беларус, грамадзянін СССР, сын станавага прыстава, беспартыйны, з вышэйшай адукацыяй, скончыў Пецярбургскі ўнівэрсітэт у 1897, прафэсар, галоўны бібліятэкар рукапіснага аддзяленьня Дзяржаўнае Публічнае бібліятэкі, жыў у Ленінградзе, вул. Гагарынская, дом 1, кв.12.

Ул.М.Беняшэвіч быў арыштаваны органамі АГПУ ў Ленінградзкай Ваеннай акрузе ў 1928 за захоўваньне каштоўнасьцяў. У тым-жа годзе апраўданы ў судзе.

Паўнамоцным Прадстаўніцтвам АГПУ ў ЛВА Беняшэвіч Ул.М. арыштаваны 25 лістапада 1928. Яму інкрымінавалася «прыналежнасьць да агентуры Ватыкану, нелегальныя кантакты з польскай місіяй, куды з 1921 года ён перадаваў хлусьлівую інфармацыю, удзел у контррэвалюцыйнай замежнай арганізацыі «Эўразійцы». Пастановаю Асобага Паседжаньня пры АГПУ ад 14 чэрвеня 1929 ён асуджаны на 3 гады пазбаўленьня волі. Падчас адбыцьця пакараньня Беняшэвіч быў прыцягнуты да крымінальнае адказнасьці па іншай справе. На сьледзтве ён абвінавачваўся ў тым, што зьяўляецца ўдзельнікам антысавецкае арганізацыі пад назвай «Усенародны саюз барацьбы за адраджэньне вольнай Расеі», якую ўзначалівалі акадэмікі Платонаў, Тарле ды іншыя, якія ставілі сваёй мэтаю зьвяржэньне савецкае ўлады й усталяваньне канстытуцыйна-манархічнага ладу.

Пастановаю Калегіі АГПУ ад 8 жніўня 1931 асуджаны да зьняволеньня ў лягеры тэрмінам на 5 год. Пакараньне адбываў у г. Архангельску да сакавіка 1933. Вызвалены датэрмінова па хадайніцтве Ул.Бонч-Бруевіча.

У часе пражываньня ў Ленінградзе 27 лістапада 1937 Беняшэвіч Упраўленьнем НКУС па Ленінградзкай вобласьці зноў быў арыштаваны. Ён абвінавачваўся ў тым, што «з 1921 году перадаваў польскім разьведорганам зьвесткі пра вайсковыя часьці РСЧА (РККА), вайсковыя заводы й эканамічнае становішча у СССР».

Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР ад 17 студзеня 1938 Ул.Беняшэвіч быў асуджаны да расстрэлу. Вырок прыведзены ў выкананьне ў Ленінградзе 27 студзеня 1938.

У 1956–58 г.г. Упраўленьнем КДБ СССР па Ленінградзкай вобласьці па ўсіх справах, па якіх быў асуджаны Беняшэвіч, праведзеная дадатковая праверка, у ходзе якой была выяўленая беспадстаўнасьць яго асуджэньня несудовымі органамі. Вайсковым Трыбуналам Ленінградзкае вайсковае акругі ад 20 жніўня 1958 крымінальныя справы на Ул.Беняшэвіча спыненыя з-за адсутнасьці ў ягоных дзеяньнях складу злачынства.

**Супрацоўнік аддзелу КДБ СССР па Ленінградзкай вобласьці А.Яўсееў.**
14 чэрвеня 1991 года.

*Амаль усе матар'ялы гэтага выпуску рубрыкі «Мартыралёг» падрыхтаваў для «Навінаў Адраджэньня» сябра Управы Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства (БГКТ) у Санкт-Пецярбургу, бібліёграф Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына Анатоль Разумаў. Рэдакцыя выказвае яму шчырую падзяку. Водгукі на публікацыю А.Разумаў просіць накіроўваць на адрас: 191069, Санкт-Петербург, ул. Садовая, 18. Российская Публичная библиотека им. М.Е.Салтыкова-Щедрина. А.Разумову.*

## ЛІСТ А.ЭЙНШТЭЙНА

**Спадару Народнаму Камісару Луначарскаму, Масква.**

Вельмішаноўны спадар Луначарскі!

Я дазваляю сабе зьвярнуцца да Вас з надзвычай важнай нагоды. Нядаўна вядомы навуковец Уладзімір Беняшэвіч зь Ленінграду быў асуджаны да высылкі. Гэтага пакараньня згаданы навуковец, на думку нашых навукоўцаў, добра знаёмых з акалічнасьцямі гэтае справы, не заслужыў. Мясцовая Акадэмія Навук, якая цэніць сп. Беняшэвіча па чыста навуковых матывах, ужо хадайнічала накont яго памілаваньня, але безвынікова, таму я зноў спрабую дабіцца ягонага памілаваньня неафіцыйным шляхам.

Гэтае няшчасьце напаткала сп. Беняшэвіча таму, што ён у мэтах атрыманьня навуковага матар'ялу падтрымліваў стасункі з адным прэлятам у Ватыкане. Але гэтыя стасункі мелі на мэце чыста навуковы інтарэс. Памілаваньне гэтага навукоўца было-б ў вышэйшай ступені жаданым ня толькі з пункту погляду чыстае навукі, але й зыходзячы з тае павагі й сімпатыі, з якой ён ставіцца да Савецкае ўлады. Я прасіў-бы Вас пахадайнічаць наконт памілаваньня спадара Беняшэвіча.

Прыміце пераканаńні ў глыбокай павазе й мае найлепшыя пажаданьні.

**Ваш Альбэрт Эйнштэйн.**


РАДЫЁ «СВАБОДА» БЕЛАРУСКАЯ ПРАГРАМА

| | | | |
|---|---|---|---|
| Штодня а гадзіне | 6.00— 7.00 | на хвалях | 25, 31, 41, 49 м |
| | 7.00— 8.00 | | 25, 31, 41, 49 м |
| | 17.00—18.00 | | 25, 31, 41, 49 м |
| | 20.00—21.00 | | 25, 31, 41, 49 м |

**Адрас для карэспандэнцыі:**
Postfach 221425, D-8000 Muenchen, Germany – **Нямеччына**

У нашай праграме прапануем Вам сусьветныя навіны й палітычныя камэнтары на міжнародныя тэмы.

Весткі зь беларускіх гарадоў і вёсак, пра беларускае жыцьцё за мяжой ды на эміграцыі. Паведамленьні, камэнтары й аналізы, падрыхтаваныя нашымі мяйсцовымі карэспандэнтамі.

Рэлігійныя гутаркі й сэрыі на беларускія гістарычныя й культурныя тэмы.



НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

*Падпісны індэкс 63895*

*Кошт на 10 мес. 11 р. 80 к.*

Падпіска на газэту «Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» прымаецца ва ўсіх рэспубліканскіх аддзяленьнях сувязі й «Саюздруку».

З-за межаў Рэспублікі (але ў межах былога СССР) можна падпісацца, пералічыўшы адвольную суму грошай на адрас: 220050, Менск, вул. К.Маркса, 25–79. Юры Рагуля. Калі Вы атрымаеце належную колькасьць нумароў на гэтую суму, рэдакцыя паведаміць, што падпіску неабходна працягнуць.

Добрага чытаньня!


ВЯРТАНЬНЕ

# АХВЯРЫ ЛЕВАШОЎСКАЕ ПУСТКІ

*(Працяг сьпісу. Пачатак у №№ 5'1991, 7'1991.)*

**Мітрафанаў-Студзёнка Міхал Якаўлевіч**, нар. у в. Мамолі Расонскага р-ну, расеец, беспартыйны, заг. гандлёвым аддзелам Умбскага сельпо Мурманскае акр. Вырок прыведзены ў выкананьне ў кастрычніку 1937.

**Міц Сьцяпан Мікітавіч**, нар. у в. Агароднікі Брэст-Літоўскага у. Гарадзенскае губ., беспартыйны, беларус, заг. кандуктарскім рэзэрвам ст. Кандалакша, жыў тамсама. Вырок прыведзены ў выкананьне ў кастрычніку 1937.

**Мяжэцкі Анастас Дзямянцевіч**, нар. у 1888 у в. Каталава Люцкага у. Віцебскае губ., паляк, беспартыйны, пажарнік 5-й гарадзкой пажарнай каманды, жыў у Ленінградзе. Вырок прыведзены ў выкананьне ў лістападзе 1937.

**Мятлюк Канстанцін Сямёнавіч**, нар. у 1876 у в. Кадушчана Дрысенскага у. Віцебскае губ., беспартыйны, расеец, кладаўшчык арцелі «Мэталіст-каапэратар», жыў у Ленінградзе (вул. Паўстаньня, 7–2). Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Навайчук Мікалай Васільевіч**, нар. у 1906 у в. Блошнікі Дзісенскага у. Віленскае губ., беспартыйны, расеец, брыгадзір 22-й дыстанцыі чыгункі, жыў на ст. Дача Далгарукава. Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Нямойцін Самуіл Яўсеевіч**, нар. у 1879 у г. Полацак Віцебскае губ., беспартыйны, габрай, саматужнік-трыкатажнік, жыў у Ленінградзе. Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Пакута Міхась Міхайлавіч**, нар. у 1876 у Магілёве, расеец, беспартыйны, прафэсар, заг. тэхнічнага аддзелу вытворчага ўпраўленьня Ўсесаюзнага таварыства «Союзхлеб». Пражываў у Маскве. Вырок прыведзены ў выкананьне ў верасьні 1937.

**Палеціла Пётр Іванавіч**, нар. у 1876 у в. Навасёлкі Гарадзенскае губ., расеец, беспартыйны, заг. гаспадаркі Андрэеўскага сабора, жыў у Ленінградзе. Вырок прыведзены ў выкананьне ў верасьні 1937.

**Панцялееў Мікалай Кузьміч**, нар. у 1914 на ст. Маладэчна Віленскае губ., беспартыйны, расеец, студэнт ЛІФЛІ. Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Піменаў Уладзімір Сямёнавіч**, нар. у 1889 у в. Барадзіно Себежскага у., расеец, член ВКП(б) у 1925–37, заг. майстэрні Яфімаўскай МТС, жыў у в. Соміна Яфімаўскага р-ну Ленінградзкае вобл. Вырок прыведзены ў выкананьне ў лістападзе 1937.

**Пліскуноў Пракоп Якаўлевіч**, нар. у 1893 у в. Кулікоўка Пракопаўскага р-ну, расеец, беспартыйны, муляр на будаўніцтве ф-кі ім. Пятра Аляксеева, жыў у г. Шлісельбурзе. Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Пятроў Фёдар Акінфіевіч**, нар. у 1892 у Глазаўскім у. Віцебскае губ., расеец, беспартыйны, кіраўнік групы апэратыўнага ўліку плянава-вытворчага аддзелу Сьвірбуд № 2, жыў тамсама. Вырок прыведзены ў выкананьне ў лістападзе 1937.

**Рагель Васіль Іванавіч**, нар. у 1882 у в. Улазовічы Ашмянскага у. Віленскае губ., расеец, стрэлачнік ст. Ленінград-Пасажырскі Кастрычніцкае чыгункі, жыў у Ленінградзе. Вырок прыведзены ў выкананьне ў кастрычніку 1937.

**Рафановіч Аляксей Фёдаравіч**, нар. у 1888 у Магілёве, расеец, беспартыйны, галоўны бухгальтар канторы «Главмолоко» Валатоўскага р-ну Ленінградзкае вобл., жыў у пас. Волат. Вырок прыведзены ў выкананьне ў жніўні 1937.

**Росімас Іосіф Антонавіч**, нар. у 1905 у Віцебску, паляк, беспартыйны, вагонаважаты трампарка імя Катлякова, жыў у пас. Стрэльна. Вырок прыведзены ў выкананьне ў лістападзе 1937.

**Рубашкін Іван Паўлавіч**, нар. у 1904 у в. Проканькава Дзісенскага у. Віленскае губ., расеец, у 1925-37 член ВКП(б), сакратар Залуцкага РІКа, жыў у в. Залучча Ленінградзкае вобл. Вырок прыведзены ў выкананьне ў лістападзе 1937.

**Працяг будзе.**

## «Шмат гадоў я не наважвалася даведацца пра лёс свайго брата»

Добры дзень, паважаны й дарагі А.Разумаў!

Учора атрымала ліст зь Беларусі ад свае стрыечнае сястры з Жодзіна. Ён мяне вельмі ўзрадаваў, але й моцна растрывожыў маю душу. У лісьце я атрымала выцінку з газэты Народнага Фронту Беларусі «Навіны Адраджэньня». Я шмат гадоў не наважвалася даведацца пра свайго брата Кучынскага Ігната Ігнатавіча, які скончыў ЛІФЛІ у 1937. Тады яму было 28 год. Ігнат быў гонарам нашае сям'і. Ён быў старэйшы. Апрача яго ў сям'і былі сястра Вікторыя, браты Станіслаў і Стэфан.

У сувязі з арыштам Ігната ў 1938 годзе быў рэпрэсаваны й Станіслаў. Ён адбыў 1 год у турме, перанёс жахлівыя катаваньні: яму выбілі зубы, саджалі на электрычнае крэсла. У Станіслава было 2 дзяцей, пэўна, гэта й вымусіла выпусьціць яго з турмы. У тым-жа годзе ва ўзросьце 63 гады быў рэпрэсаваны й бацька Ігнат Юр'евіч. Ён таксама адбыў год турмы. Выпусьцілі яго зусім хворым, паралізаваным, пасьля чаго ён доўга хварэў і памёр напярэдадні вайны.

Наша сям'я пакутвала маральна, суседзі, сваякі баяліся вітацца з намі. У 1937 у канцы красавіка мы паслалі Ігнату прадуктовую пасылку, але яна вярнулася назад. Студэнты, яго таварышы зь ЛІФЛІ паведамілі: «Ваш сын рэпрэсаваны, знаходзіцца ў Ленінградзкай цэнтральнай турме».

Пасьля заканчэньня Менскага пэдагагічнага інстытуту мой муж служыў у Чангарскай дывізіі ў Гомелі, быў членам партыі. На партыйным сходзе ён быў вымушаны заявіць, што бацькі жонкі рэпрэсаваныя. Праз 2–3 месяца яго выгналі з войска. Далейшы наш лёс склаўся ня так ужо й блага. Ён працаваў выкладчыкам у Гомельскім пэдінстытуце, лектарам пры гаркаме РКПБ.

Зь сям'і Кучынскіх, якія жылі ў в. Зарэчча Талачынскага раёну, засталася жывой толькі я, Прымак Ванда Ігнатаўна 1915 году нараджэньня. Ігнат загінуў у 1937, напэўна быў расстраляны (мы так і ня здолелі расшукаць зьвесткі пра ягоны лёс). Не дачакаліся больш сьветлых дзён бацькі. Станіслаў загінуў у Польшчы 22 жніўня 1943 году, ён вельмі хацеў патрапіць на фронт і давесьці, што ён ня вораг. Памерлі сястра Вікторыя й брат Стэфан.

Паважаны А.Разумаў! Я вельмі хачу даведацца пра свайго брата больш падрабязна. Не дазваляе здароўе, але вельмі хацелася-б пабываць на тым мейсцы Левашоўскага пасёлку, дзе спачывае ягоны прах.

Дзякуй Вам за міласэрнасьць.

**З павагаю, Ванда Прымак.**

31.10.1991.

## «Іх кідалі ў вялікія агульныя ямы»

Вельмішаноўная Ванда Ігнатаўна,

Дазвольце падзяліць з Вамі горыч у сувязі зь весткаю пра абставіны, пры якіх загінуў Ваш брат.

У дадатак да апублікаванага я здолеў даведацца, што Ігнат Кучынскі быў арыштаваны 25 красавіка 1937 і абвінавачаны па артыкулах 58-10 і 58-11 Крымінальнага кодэксу РСФСР. 22 жніўня ён быў асуджаны Асобай тройкаю да расстрэлу й забіты 24 жніўня. Мяркуючы па апошніх зьвестках, у той час усіх забітых звозілі ў таемны могільнік НКУС у Левашове, дзе кідалі ў вялікія агульныя ямы. Цяпер тут мэмарыяльныя могілкі. Прашу Вас, калі магчыма, даслаць сямейныя фотаздымкі заказным лістом для кнігі, якая будзе напісана пра Левашова й ахвяры рэспрэсіяў. Вялікі дзякуй.

**З павагаю, Анатоль Разумаў.**

# ДЗЯДЫ Ў ПІНСКУ




**Пінская ваколіца, вёска Вулька Гарадзішчанская. Акцыя была арганізаваная пінскай філіяй сацыяль-дэмакратычнай Грамады й БНФ.**


Рэдактар Алесь Суша.

НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ
9 студзеня, 1'92

**Нумар падрыхтавалі:** Алена Вашчанка, Алена Галаўчак, Тамара Дайнека, Юры Драздоў, Ірына Лазоўская (нам. рэдактара), Аляксандар Лазоўскі, Уладзімір Панада, Юры Рагуля, Валеры Сядоў.
**Заснавальнік** Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, Менск, вул.К.Маркса, 25–79. Тэл. 27-06-04. Падпісны індэкс 63895. Аршанскя друкарня, наклад 16.000, замова № 1.